

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 423 Красавік 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## ПРЫВІТАНЬНЕ АД ПРЭЗЫДЭНТА КЛІНТАНА

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

March 16, 1995

On the seventy-seventh anniversary of the 1918 proclamation of independence by the Belarusian National Republic, I extend warm greetings to all Americans of Belarusian heritage who are celebrating this important occasion. Symbolizing the undying spirit of Belarusian democracy, the rebirth in 1991 of an independent Belarus represents the successful realization of a centuries-old ambition.

The short-lived republic of 1918 offers important lessons for today's generation. A nation must remain vigilant in preserving and protecting its sovereignty and independence. Once lost, such freedom is not easily regained. The events of 1918 and 1991 teach us that the yearning for democracy in Belarus cannot be extinguished, even by decades of foreign domination or totalitarian rule.

Support for Belarus' sovereignty, independence, and territorial integrity forms the guiding principle in America's relations with that country. In the spirit of this anniversary, may we all reaffirm our commitment to ensuring that the flame of Belarusian freedom and democracy continues to burn brightly.

Best wishes to all for a wonderful anniversary celebration.

Bill Clinton

БЕЛЫ ДОМ
Вашынгтон
16 сакавіка 1995 г.

У 77-я ўгодкі абвешчаньня ў 1918 годзе незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі я перадаю шчырае прывітаньне ўсім амэрыканцам беларускага паходжаньня, якія адзначаюць гэтую важную дату. Аднаўленьне ў 1991 годзе незалежнасьці Беларусі, сымбалізуючы няўмірушчы дух беларускай дэмакратыі, — уяўляе сабой удалае зьдзяйсьненьне шматвекавога жаданьня.

Кароткатрывалая рэспубліка 1918 году дае важны прыклад сучаснаму пакаленьню. Нацыя мусіць быць пільнай, аберагаючы і ахоўваючы свой сувэрэнітэт і незалежнасьць. Бо раз страчаная, гэткая свабода ня лёгка аднаўляецца. Падзеі 1918 і 1991 гадоў паказваюць нам, што нават дзесяцігодзьдзі чужога панаваньня ці таталітарнага ладу ня здолелі здушыць у Беларусі імкненьня да дэмакратыі.

Падтрымка сувэрэнітэту, незалежнасьці і тэрытарыяльнай цэласьці Беларусі сталася праваднымі прынцыпам ў дачыненьнях Амэрыкі з гэтай краінай. У духу гэтых угодкаў адновім-жа ўсе нашу адданасьць справе запэўненьня, каб працягвала зырка гарэць полымя беларускай свабоды і дэмакратыі.

Найлепшыя пажаданьні ўсім удала правесьці гэтае сьвяткаваньне.

**Біл Клінтан**

Office of the Mayor
CITY OF NEW YORK

Proclamation

WHEREAS: THE BELARUSAN AMERICAN COMMUNITY IS OBSERVING THE 76TH ANNIVERSARY OF THE BELARUS DEMOCRATIC REPUBLIC ON THE TWENTY-FIFTH OF MARCH; AND

WHEREAS: MORE THAN 500,000 IMMIGRANTS FROM BELARUS ARRIVED IN THE UNITED STATES BETWEEN 1890 AND 1920. THE HEADQUARTERS OF THEIR FIRST ORGANIZATION WAS LOCATED ON PARK ROW ACROSS FROM CITY HALL PARK IN 1920. MORE THAN 50,000 IMMIGRANTS ARRIVED AFTER WORLD WAR II, FLEEING OPPRESSION AND SEEKING TO BUILD NEW LIVES FOR THEMSELVES AND THEIR FAMILIES IN THE LAND OF FREEDOM; AND

WHEREAS: FOR MORE THAN A CENTURY, NEW YORKERS OF BELARUSAN DESCENT HAVE CONTRIBUTED TO EVERY AREA OF THE LIFE AND CULTURE OF OUR CITY, SHARING THEIR RICH HERITAGE WITH ALL NEW YORKERS; AND

WHEREAS: AS WE COMMEMORATE THE ANNIVERSARY OF THE BELARUS DEMOCRATIC REPUBLIC, WE REMEMBER WITH SADNESS THE CONTINUING DEVASTATION OF THE CHERNOBYL NUCLEAR DISASTER. SEVENTY PERCENT OF THE FALLOUT FROM CHERNOBYL CONTAMINATED ONE-THIRD OF BELARUS AND AFFECTED 2.2 MILLION PEOPLE -- INCLUDING MANY RELATIVES OF NEW YORKERS. MANY SCIENTISTS, PHYSICIANS AND OTHER MEN AND WOMEN OF GOOD WILL FROM OUR CITY AND OUR NATION CONTINUE THEIR WORK TO ASSIST THE PEOPLE ALREADY AFFECTED AND TO SEEK LONG-TERM SOLUTIONS,

NOW THEREFORE, I, RUDOLPH W. GIULIANI, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THIS IMPORTANT ANNIVERSARY, DO HEREBY PROCLAIM SUNDAY, MARCH 26, 1995 IN THE CITY OF NEW YORK AS

"BELARUSAN INDEPENDENCE DAY"

IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

Rudolph W. Giuliani
RUDOLPH W. GIULIANI
MAYOR

*Праклямацыя, якою мэр гор. Нью-Ёрку, Рудольф Джульяні, абвесьціў дзень 25 сакавіка 1995 году Днём Беларускае Незалежнасьці.*

***Рэдакцыя «Беларуса» дастала 13 красавіка 1995 г. тэлефаксам зь Менску заяву Ўправы Сойму БНФ «Адраджэньне» наступнага зьместу:***

## НЕ ДАПУСЬЦІМ ФАШЫСЦКАЙ ДЫКТАТУРЫ

Прэзідэнт Лукашэнка і ягоны ўрад пацярпелі поўны правал у эканамічнай палітыцы, давёўшы людзей да галечы і бяспраўя. Прэзідэнт і яго акружэньне сьвядома парушаюць правы чалавека, Канстытуцыю і законы.

Апошняй кропляй стала ініцыятыва Прэзідэнта правесьці супярэчны закону рэфэрэндум па пытаньнях, ад якіх залежыць незалежнасьць Беларусі і само існаваньне нашага народу.

У гэтых умовах дэпутаты Апазіцыі БНФ дзеля абароны беларускай дзяржаўнасьці і права грамадзянаў на лепшае жыцьцё вымушаны былі зьвярнуцца да крайняй, але законнай меры — галадоўкі.

Галадоўку 11 красавіка 1995 г. аб'явілі Зянон ПАЗЬНЯК, Мікалай АКСАМІТ, Сяргей АНТОНЧЫК, Лявон БАРШЧЭЎСКІ, Юрась БЕЛЕНЬКІ, Ігар ГЕРМЯНЧУК, Валянцін ГОЛУБЕЎ, Барыс ГЮНТЭР, Лявон ДЗЕЙКА, Уладзімір ЗАБЛОЦКІ, Лявон ЗДАНЕВІЧ, Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ, Мікалай МАРКЕВІЧ, Віталь МАЛАШКА, Сяргей НАВУМЧЫК, Сяргей ПАПКОЎ, Пётра САДОЎСКІ, Алег ТРУСАЎ, Аляксандар ШУТ.

Яны пратэставалі:

— супраць незаконнага рэфэрэндуму, якім прэзідэнцкая каманда прыкрывае рабаваньне нашага народу і свае планы здаць Беларусь расейскай мафіі;

— супраць незаконнага прэзідэнцкага ўказу аб увядзеньні цэнзуры ў прэсе, на радыё і тэлебачаньні;

— супраць таго, што замяшаныя ў карупцыі службовыя асобы дагэтуль не прыцягнутыя да адказнасьці.

Лукашэнка спадзяваўся, што паслухмяная большасьць Вярхоўнага Савету зацьвердзіць вынесеныя ім на рэфэрэндум пытаньні. Але рашучы крок дэпутатаў Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту зьмяніў настрой у зале, і тры з чатырох пытаньняў парламент адхіліў. Галадуючыя засталіся ў зале на ноч.

У 2.30 ночы 12 красавіка ў залу паседжаньняў Вярхоўнага Савету па загадзе Лукашэнкі ўварваліся ўзброеныя аўтаматамі і дубінкамі баевікі спэцпадраздзяленьняў. Фармальнай прычынай быў ананімны (!) званок пра нібыта падкладзеную ў будынак бомбу. Спэцназаўцы накінуліся на народных дэпутатаў, якія паводле Канстытуцыі і ўсіх міжнародных правоў і нормаў зьяўляюцца недатыкальнымі, і жорстка зьбілі іх. Білі па галаве, нырках, пячонцы. Пасьля сілай вывелі з будынку, у прамым сэнсе слова ўкінулі ў машыны,

*(Працяг на 2-й ст.)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

«Ведаючы, што Хрыстос, уваскросшы з памерлых, болей не памірае, сьмерць ня мае над Ім улады»
(Рым. 6:9)

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры!

Хрыстос Уваскрос!

Ці ёсьць іншыя словы, каб былі гэтак блізкія й пацяшаючыя для нас, беларусаў? І ці ёсьць часіна ў годзе, каб можна было мець такую меру спадзяваньня на вечнае жыцьцё, як на Вялікдзень — у падзеі крыжовай сьмерці і ўваскрасеньня зь мёртвых Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста? Бо-ж сёньня мы прамаўляем словамі малітвы: «Ты, Госпадзе, што на крыжы пакутаваў і сьмерць зьнішчыў і ўваскрос зь мёртвых, супакой нашае жыцьцё, бо Ты — адзіны Ўсемагутны (*вялікодная сьціхіра на «Хваліце»*). Канчатковая перамога Госпада нашага Ісуса Хрыста над сьмерцяй, дарагія мае, дае і нам усім веру ў перамогу. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25). Мы радасна ўсклікаем разам з апосталам Паўлам: «Сьмерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога? Хрыстос Уваскрос, і палі чэрці! Хрыстос Уваскрос, і цешацца анёлы! Хрыстос уваскрос, і памерлых няма ў магіле! Хрыстос Уваскрос з памерлых і стаўся Першым для ўсіх памерлых» (Вялікоднае слова Яна Залатавуснага).

Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, фарысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. А добра ведаць значэньне гэтай падзеі. Гэта — сіла самаіснаваньня, сіла тварэньня, сіла вытрываласьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (Ян 5:4). Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы жывем у часе працэсу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня асаблівы нам трэба мець прад вачыма жыцьцё сьвятых, і браць іх за прыклад, мець моцную веру ў Бога, вялікую сілу вытрываласьці, каб нашая сьвятая Беларусь уваскросла й сапраўды сталася свабоднай, незалежнай.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да Карынцянаў кажа: «Дык вось, ачысьціце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша — Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старой закісяй, ня з закісяй зла і подступу, а з праснакамі чысьціні і праўды» (Кар. 5:7-8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста.

«Мір вам» — абвяшчае Хрыстос апосталам, увайшоўшы праз «зачыненыя дзьверы» і паказваючы раны на руках і рэбрах ад цьвікоў.

А вучні ўсьцешыліся, як пабачылі Госпада, і зноў пачулі: «Мір вам! Як Мяне паслаў Айцец, і Я пасылаю вас» (Ян 20:21).

Дарагія мае, служыць Богу — гэта служыць свайму народу. А каб належна служыць народу, трэба любіць свой народ, ведаць ягноую гісторыю, ягоную культуру, трэба мець непахісную й моцную веру ў Бога й верыць свайму народу. Але словамі мы ня можам выявіць веру, як сьв. апостал Якуб кажа: «Вера, калі ня мае ўчынкаў, мёртвая сама ў сабе» (Як. 2:17). Не ўцякайце-ж і не пакідайце Праваслаўнай Царквы, а будзьце вытрывалымі, настойлівымі ў сваіх дабародных намаганьнях, каб Царква была свая й служыла свайму народу.

Аднак наша радасьць гэтага сьветлага дня ўваскрасеньня Хрыстовага ня будзе поўная й дасканалая, калі яна ня будзе мець за сабою падтрымкі ў кожнага з нас узаемнай любові й шчырага братэрства. І няхай ня будзе паміж намі нічога таго, што разлучала-б нас, бо мы — адзін беларускі народ.

Любасныя мае! Якое вялікае дабро й шчасьце ў тым, што Бог удастоіў нас быць беларусамі й быць дзецьмі Ягонае Хрыстовае Царквы, у якой мы станомімся такімі блізкімі Ўваскрэсламу Госпаду, дзе мы здабываем ратунак у смутку й паўнату ў Сьвятым Духу.

Няхай-жа кожны з нас, зь вераю і ў поўным перакананьні належна й непаслабна, дабраахвотна дзейнічае, каб нашыя высакародныя надзеі споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах усе вернікі з удзячнасьцю Богу славілі ўваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Уваскрасеньня дзень, і прасьвяцімся ўрачыстым сьвятам і адзін аднаго абдымем. Скажам «браты» і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак засьпяваем: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё падарыў».

Усіх Вас, дарагія мае, слаўныя й мілыя Суродзічы, вітаю: ХРЫСТОС УВАСКРОС — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень 1995 году

**Архіяп. МІКАЛАЙ**
**Мітрапаліт БАПЦ**

# НЕ ДАПУСЬЦІМ ФАШЫСЦКАЙ ДЫКТАТУРЫ

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

завезьлі на плошчу Перамогі і выкінулі на вуліцу.

Калі топчуццаа законы і Канстытуцыя, калі ў парламенцкую залу ўрываюцца войскі, калі народных абраньнікаў зьбіваюць дубінкамі — гэта значыць, што ў краіне ўсталёўваецца *фашысцкая дыктатура.* Пад яе прыкрыцьцём адбываецца здача беларускай незалежнасьці.

Усе здаровыя сілы беларускага грамадзтва павінны згуртавацца супраць беззаконьня, якое творыцца прэзыдэнтам Лукашэнкам і яго акружэньнем. Не дапусьцім усталяваньня ў Беларусі фашысцкай дыктатуры! Законнасьць, свабода і незалежнасьць нашай дзяржавы будуць абароненыя!

**Управа Сойму БНФ**
**«Адраджэньне»**

***Заўвага:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне адразу-ж пераклала гэтую заяву на ангельскую мову і, разам з падобнаю заявай Беларускага ПЭН-клюбу (старшыня Васіль Быкаў) распаўсюдзіла яе па беларускіх цэнтрах у ЗША і Канадзе, амэрыканскіх урадавых і міжнародных установах, рэдакцыях газэтаў і сярод палітычных дзеячоў ЗША.*

## ЗВАРОТ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*Менск, 17 красавіка 1995 г.*

Шаноўнае беларускае спадарства!

З гэтым дасылаю вам ліст, які ад 10 красавіка мы рассылаем па сусьветных праваахоўных арганізацыях, фондах спрыяньня разьвіцьцю дэмакратыі і да таго падобных установах. Маем зьвесткі, што афіцыйныя, урадавыя ўстановы розных краін паінфармаваныя Міністэрствам замежных справаў Беларусі.

Ведаем, аднак, што гэтых захадаў замала, каб гарантаваць прысутнасьць назіральнікаў у Беларусі ў дзень выбараў. Таму шчыра просім вас, дзеля дабра Бацькаўшчыны, парупіцца, каб грамадзкасьць краіны вашага пражываньня адгукнулася на просьбу дэмакратычных сілаў Беларусі.

Падзеі апошняга тыдня надзвычай трывожныя. Кіраўнік дзяржавы паводзіць сябе як дыктатар; хлусьня, дэмагогія і збройная сіла ўжываецца ім з аднолькавай лёгкасьцю. Пракамуністычная большасьць Вярхоўнага Савету — яго пакорлівыя авечкі, якім наўцям, што і кожную зь іх ён бяз жалю можа ў зручны для яго час пазбавіць і галавы, і скуры. Апазыцыя ня мела сілы пераламаць сытуацыю і не дапусьціць прыняцьця рэфэрэндуму і ратыфікацыі ганебных беларуска-расейскіх пагадненьняў. Таму 19 дэпутатаў (фракцыя БНФ і Грамады) абвясьцілі галадоўку ў залі Вярхоўнага Савету, каб хоць такім чынам прыцягнуць увагу да антыдзяржаўных, антынацыянальных дзеяньняў прэзыдэнта Лукашэнкі. Ноччу яны былі зьбітыя атрадам войскаў спэцыяльнага прызначэньня (прафэсійна зьбітыя!) і выкінутыя з будынку. Мала, што пры гэтым былі парушаны правы чалавека, была парушана замацаваная ў заканадаўстве дэпутацкая недатыкальнасьць. Фактычна, фізычныя зьдзекі і прыніжэньні абрынутыя на мільён грамадзян Беларусі, бо за кожным дэпутатам амаль 30 тысяч выбаршчыкаў і іх дзеці. (На жаль, большасьць людзей не ўсьведамляюць гэтага. Сталінскі генацыд зрабіў сваю чорную справу,)

Але барацьба працягваецца, ідзе перадвыбарчая агітацыя. І мы спадзяёмся на свае сілы, вашу дапамогу і спачуваньне сусьветнай супольнасьці.

Жыве Беларусь!

**Валянціна Трыгубовіч**

## ЗША АСУЖДАЮЦЬ ГВАЛТ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік **Belarusian Review** (Vol. 7, No. 1, Supplement 1) падаў тэксты заяваў ураду ЗША у сувязі з гвалтам, учыненым на загад Прэзыдэнта Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце Беларусі.*

*Амэрыканскае пасольства ў Менску зрабіла 12 красавіка наступную заяву:*

Злучаныя Штаты Амэрыкі моцна заклапочаныя апошнімі палітычнымі падзеямі ў Беларусі. Мы асабліва ўстурбаваныя паведамленьнямі, што ў парляманце была ўжытая сіла супраць членаў парляманту.

Злучаныя Штаты моцна настойваюць на тым, каб разьвязваньне палітычных разыходжаньняў адбывалася мірным і дэмакратычным шляхам пры поўнай пашане правоў чалавека згодна зь міжнароднымі ўмовамі, якія падпісала Беларусь.

*Заява Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША 13 красавіка:*

Злучаныя Штаты моцна заклапочаныя паведамленьнямі аб тым, што паліцыя сілай выкінула ўначы 11 красавіка 19 членаў Беларускага парляманту. Парлямэнтарыі бралі ўдзел у галадоўцы, абвешчанай у знак пратэсту супраць намеру Прэзыдэнта Лукашэнкі правесьці ў Рэспубліцы рэфэрэндум, які, на думку галадоўшчыкаў, мог-бы парушыць палажэньні беларускай Канстытуцыі.

Мы разглядаем ужыцьцё сілы супраць мірных дэманстрантаў як няпрымальнае ў ніякіх абставінах. Мы асабліва ўстурбаваныя паведамленьнямі пра тое, што сіла была ўжытая супраць членаў парляманту ў самым парляманцкім будынку.

Злучаныя Штаты асуждаюць гэткае ўжываньне сілы і моцна настойваюць на тым, каб палітычныя разыходжаньні разьвязваліся мірным і дэмакратычным шляхам пры поўнай пашане правоў чалавека і законнасьці.

## ПРЭЗЫДЭНТ ЛУКАШЭНКА ТЛУМАЧЫЦЦА

Паводле прэскамунікату Беларускага пасольства ў Вашынгтоне, Прэзыдэнт Лукашэнка правёў 14 красавіка сустрэчу з акрэдытаванымі ў Менску кіраўнікамі дыпляматычных прадстаўніцтваў. Лукашэнка гаварыў пра некаторыя праблемы замежнай і нутраной палітыкі Беларусі. Ён падкрэсьліў, што ў рэспубліцы паўстала «нябесьпека дэстабілізацыі палітычнага палажэньня напярэдадні парляманцкіх выбараў».

У ВС Беларусі Старшыня М. Грыб сказаў, што Беларусь ніколі ня была так блізка да грамадзянскае вайны, як цяпер.

# 77-я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

## МЕНСК

Паводле менскіх газэтаў ад 28 сакавіка, 77-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР былі адзначаныя ў сыботу 25 сакавіка ўрачыстым мітынгам перад будынкам Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатру опэры і балету, дзе сабралася пад бел-чырвона-белымі сьцягамі «каля паўтары тысячы чалавек». Паводле неафіцыйных крыніцаў, там было каля чатырох тысячаў. На мітынгу прамаўляў лідэр БНФ Зянон Пазьняк. Адбыўся таксама сьвяточны канцэрт.

Як паведаміла радыё «Свабода», паліцыя перашкаджала ўдзельнікам сьвяткаваньня дайсьці да месца мітынгу, адбірала і таптала нацыянальныя сьцягі.

## НЬЮ-БРАНСЬВІК, Н.-ДЖ.

З нагоды сёлетніх 77-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылася ў царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку 26 сакавіка ўрачыстая багаслужба, якую адслужыў а. Васіль Андрэюк. Прыгожа сьпяваў папоўнены гасьцямі хор пад кіраўніцтвам маладога рэгента Геніка Дубягі. Стаяла сьцяжная варта.

Урачысты сход адбыўся ў традыцыйнай ужо форме банкету ў залі гатэлю Гаят-Рыджэнсі. Ня сьвята прыблі госьці: Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч з Флярыды, Віцэ-Старшыня Рады БНР др. Барыс Рагуля з Канады, прадстаўнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне сп. Аляксандар Астроўскі, прадстаўнік Беларускае місіі пры Аб'еднаных Нацыях сп. Юры Аранж, кангрэсмэн мясцовае выбарчае акругі сп. Фрэнк Палоўн, кіраўнікі беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў, суродзічы зблізку і здалёку, у тым ліку зь Беларусі.

Урачысты сход адкрыў і вёў яго далей старшыня ньюджэрзійскага аддзелу БАЗА сп. Юрка Азарка. Айцец Васіль сказаў малітву, а сп. Павал Рамана прачытаў прысягу на вернасьць сьцягу Злучаных Штатаў. З прывітаньнямі, прамовамі, дакладамі — на тэму змаганьня беларускага народу за незалежнасьць і дэмакратыю, а таксама пра сучасную пагрозу нацыянальнадзяржаўнаму адраджэньню Беларусі — выступілі спсп. Я. Сажыч, Б. Рагуля, А. Шукелайць, Ф. Палоўн, Вера Запруднік, Юрка Васілеўскі, Ю. Азарка.

Былі прачытаныя прывітаньні ад Прэзыдэнта Клінтана (атрыманае дзякуючы стараньням рэдактара «Беларускага Агляду» сп. Язэпа Арцюха), Беларускага Народнага Фронту, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускай Цэнтральнай Рады, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, «Беларускага Агляду», Малодшага Калектыву Беласточчыны, прывітальныя пасланьні ад сэнатараў Альфонса Д'Амата, Пола Саймана і Джэймса Джэфардса ды кангрэсмэна Рычарда Дурбіна.

У сваім пісьмовым прывітаньні ўдзельнікам урачыстасьці пасол Беларусі сп. Сяргей Мартынаў, адзначыўшы, што на шляху да незалежнасьці ляжыць шмат цяжкасьцяў, заклікаў усіх беларусаў да духовай еднасьці з Бацькаўшчынай, што «дапамагае будаваць сапраўды самасьвядомую і незалежную дзяржаву». Далучыўся да гэтых словаў і сп. Астроўскі, які прачытаў прывітаньне ад пасла.

У мастацкай частцы праграмы выступілі кампазытар-музыка Зьміцер Яўтуховіч і ягоная дачушка Валерыя зь песьнямі, Пётра Скепка (электрапульт), Нона Азарка і Марыся Тэрысі зь песьнямі. Заля шчодра абдарыла іх воплескамі.

Паэт і журналіст Леанід Пранчак прадэклямаваў колькі сваіх вершаў, расказаў пра сваю новую кнігу «Беларуская Амэрыка», над другім томам якое ён працуе цяпер.

Янка Запруднік, прывітаўшы ўдзельнікаў сходу ад рэдкалегіі «Беларуса», заклікаў падтрымаць фінансава гэтае выданьне, а таксама англамоўны «Беларускі Агляд», а затым прачытаў рэзалюцыю сходу і прывітаньне чачэнскім вызвольным змагаром. Абодвы дакумэнты былі аднадушна прынятыя.

На заканчэньне сходу быў адсьпяваны беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**З.**

## РЫЧМАНД-ГІЛ, Н.-Ё.

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку адзначыла 77-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 26 сакавіка. У царкве Сьв. Кірылы Тураўскага а. ігумен Грэгоры і а. дыякан Майкел адслужылі багаслужбу. Хорам кіраваў сп. С. Жамойда. Быў адслужаны малебен за Беларускі народ. Са сьцягамі стаялі ў царкве вэтэраны.

Пасьля царквы, у Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбылася ўрачыстасьць, якую адчыніў сп. К. Мерляк, старшыня БАА. Ён-жа прачытаў і рэфэрат на тэму дня, навязваючы гістарычныя падзеі да падзеяў сучаснасьці. Хоць час сёньня на Бацькаўшчыне трывожны, дакладчык выказаў надзею, што ідэя 25 Сакавіка згуртуе беларусаў як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі, каб перамагчы сілы, што намагаюцца перашкодзіць Беларусі стацца дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай.

Беларускім гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» быў закончаны сьвяткавальны сход.

**Васіль Шчэцька**

## ЧЫКАГА

Сьвятказаньне 77-х угодкаў дня 25 Сакавіка, арганізаванае Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Радай (БАНР) адбылося 2 красавіка ў залі парафіі Сьв. Юрыя.

На сьвяточнай урачыстасьці была прысутнай сп-ня Ева Бэтка, памочніца Віцэ-Губэрнатара штату Іліной Боба Кустра. Яна зачытала прывітаньне і праклямацыю ад Губэрнатара Джымі Эдгара і ягонага намесьніка сп. Б. Кустра.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў госьць зь Беларусі сп. Леанід Пранчак, вядомы журналіст і пісьменьнік, аўтар кнігі «Беларуская Амэрыка». Прывітальныя лісты ад беларускіх арганізацыяў дыяспары і зь Беларусі зачытаў сакратар БАНР М. Латушкін. Сьвяточную праграму вёў Міхась Каленік, старшыня БАНР.

З мастацткай праграмай выступіла група дзяцей парафіі Сьв. Юрыя пад кіраўніцтвам матушкі Ірэны і матушкі Евы. Дзеці выканалі шмат захапляючых танцаў і прыгожых дэклямацыяў беларускіх вершаў. Заля грымела ад воплескаў з удзячнасьці за жыцьцярадасныя выступленьні дзяцей.

Акадэмія распачалася пасьля сьв. літургіі словамі настаяцеля а. пратаярэя Дзімітрыя і малебнам за Беларусь, а закончылася агульным адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Мікалай Латушкін**



*Дзеці беларускага праваслаўнага прыходу Сьв. Юрыя ў Чыкага ў часе сьвяткаваньня.*

## КЛІЎЛЕНД

Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе ўрачыста адзначыў 77-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якія адбыліся 2 красавіка ў Грамадзкім Цэнтры Палацку.

Пасьля сьв. літургіі а. прат. Міхась Страпко адправіў малебен за Беларускі Народ, сказаў добрую казань на тэму дня, спалучыўшы гістарычныя падзеі з рэлігійным жыцьцём і ўдзелам царквы ў змаганьні за незалежнасьць.

Адбыўся традыцыйны абед у залі Полацку, упрыгожанай беларускімі арнамэнтамі й кветкамі.

Праграму акадэміі адкрыў старшыня аддзелу БАЗА Янка Ханенка. Усе разам прасьпявалі амэрыканскі нацыянальны гімн. Затым сп. Ханенка прывітаў прысутных і гасьцей з сакавіковымі ўгодкамі, зазначаючы, што мы мусім далей прадаўжаць справу адраджэньня Беларусі, дзе варожыя сілы стараюцца перашкодзіць гэтаму. Далей ён прадставіў дакладчыка доктара Вітаўта Кіпеля.

У сваім дакладзе др. Кіпель заўважыў, што адзначаючы Сакавіковыя ўгодкі, мы заўсёды падсумоўваем падзеі на Бацькаўшчыне ў кірунку да запраўднага адраджэньня. На сяньняшні дзень сытуацыя на Беларусі ня спрыяльная для поўнага нацыянальнага адраджэньня. Як прэзыдэнт, так і яго кабінэт уважаюць, што Беларусь павінна быць інкарпараванаў расейскую імпэрыю: мець супольныя грошы, войска, адкрытыя граніцы, мову, скасаваць беларускую сымболіку. Народ выбраў Лукашэнку, у асноўным верачы, што ён палепшыць стан эканамічны, а тым часам жыцьцё шмат пагоршала. Ды асноўнае, падкрэсьліў др. Кіпель, гэта тое, што за 200 гадоў расейскага панаваньня (1795-1995) на Беларусі разбураная і эканоміка, і сацыяльна-бытавы ўклад, і амаль поўнасьцю выкараненая нацыянальная годнасьць. Толькі выхад з расейскай імпэрыі дасьць беларусам магчымасьць адрадзіцца нацыянальна й духова да наладзіць нармальнае дзяржаўнае жыцьцё і дабрабыт.

Наступна сп. Ханенка прывітаў гасьцей з Дэтройту ды пераказаў 11 пісьмовых прывітальняў, прысланых з нагоды сакавіковых угодкаў. Некаторыя зь іх былі прачытаныя: ад Прэзыдэнта ЗША Клінтана, Беларускага пасольства ў ЗША, арганізацыяў зь Беларусі, Галоўнай Управы БАЗА, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, з Канады, Чыкага ды іншыя.

У мастацкай частцы выступіў жаночны хор «Васілёк» у прыгожых нацыянальных строях пад кіраўніцтвам ведамай Олі Лукашэвіч і акампанімэнт заслужанага музыканта Фёдара Паўлаўца. Выкананьне песьняў, у тым ліку солё Любы Сяргеевіч, было вельмі добрае, як пра гэта сьветчылі доўгія і шчырыя воплескі.

Праграма закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Канцэрт «Сяброў»**

Пасьля заканчэньня сакавіковае праграмы адбыўся другі канцэрт артыстаў зь Беларусі — ансамблю «Сябры» пад кіраўніцтвам народнага артыста Рэспублікі Беларусь Анатоля Ярмоленкі. Ансамбль выканаў шмат беларускіх песьняў пад добры акампанімэнт.

Таксама прысутныя ўпяршыню пабачылі й пачулі народнага артыста Віктара Вуячыча, які выканаў шмат песьняў. Публіка была вельмі задаволеная, добра ўспрымала песьні й музыку. Шкада толькі, што сьпевакі не на час прыехалі, спазьніліся, і некаторыя людзі, не дачакаўшыся, ад'ехалі дамоў.

**К.П.**

*Англамоўныя тэксты заяваў БНФ пра гвалт над беларускімі парлямэнтарыямі і парушэньні правоў чалавека для пашырэньня іх у амэрыканскім грамадзтве можна дастаць у Галоўнай Управе БАЗА або ў рэдакцыі «Беларуса». Тэл.: (212) 777-8224 або (516) 627-0902.*

## *ПРЫВІТАНЬНЕ АД БНФ*

Дарагія сябры,

Шчыра віншуем Вас з сьвятам усіх сьведамых беларусаў на Бацькаўшчыне і на чужыне — з Днём Волі 25 Сакавіка.

Шлях да нашай мэты — да сапраўды незалежнай, духоўна й нацыянальна адроджанай, заможнай, дэмакратычнай эўрапейскай дзяржавы Беларусі — цяжкі й працяглы.

Юрыдычнае аднаўленьне Незалежнасьці ў 1991 годзе ня стала гарантыяй таго, што павароту да старога ня будзе. Выбары першага Прэзыдэнта краіны засьведчылі, з аднаго боку, роспачную расчараванасьць нашага народу ў камуністычным рэжыме, але з другога — негатоўнасьць шмат каго развітацца з камуністычнымі ілюзіямі і ўсьведаміць, што толькі Незалежнасьць ёсьць зарукаю лепшае будучыні для кожнага, хто жыве на гэтай зямлі.

Папулісцкае кіраўніцтва, ня здольнае вывесьці краіну з эканамічнага крызысу, не хавае імкненьня скасаваць нешматлікія дэмакратычныя свабоды, зьнішчыць нашу мову і нацыянальную культуру, урэшце, здаць незалежнасьць Беларусі. У гэтай сытуацыі Беларускі Народны Фронт, як наймацнейшая дэмакратычная палітычная сіла краіны, застаецца галоўным гарантам дэмакратыі і незалежнасьці. Народны Фронт утварыў разам з чатырма саюзнымі партыямі перадвыбарчы блёк, каб процістаяць спробам рэваншу антыбеларускіх сілаў і падчас выбараў, і пасьля іх — у новым, але званым па-ранейшаму «Вярхоўным Савеце».

У сьвяты дзень 25 Сакавіка дзесяткі тысяч людзей выйдуць на вуліцы й пляцы нашых гарадоў. Яны засьведчаць, што наш спакутаваны, але адроджаны да вечнага жыцьця народ усё-ж прачынаецца ад векавогу сну. Барацьба за ідэалы 25 Сакавіка працягваецца, і мы адстаім нашу Незалежнасьць.

Прымеце, дарагія суродзічы, нашыя найлепшыя сьвяточныя зычэньні.

Жыве Беларусь!

**Зянон Пазьняк**
Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»
**Валянціна Трыгубовіч**
Старшыня Камісіі замежных сувязяў
**Вінцук Вячорка**
Сакратар Управы, старшыня Палітычнай камісіі

*Менск, 13 сакавіка 1995 г.*

## ТАРОНТА, КАНАДА

25 сакавіка ад усходу да заходу сонца, як і кожны год, пачынаючы з 1970-га, ля ратушы Таронта ўзьвіваўся беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. У нядзелю 26 сакавіка, у дзень сьвяточных урачыстасьцяў, беларускі й канадзкі сьцягі былі ўзьняты каля Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру.

Уладыка Мікалай, Першаярарх БАПЦ, адправіў багаслужбу з пахвалой Пачэснаму й Жыцьцядайнаму Крыжу і малітвай за Беларусь. У залі Цэнтру, дзе пасьля багаслужбы адбыўся супольны абед і ўрачысты сход, наладжаная была, традыцыйная на 25 Сакавіка, выстаўка, што дапаўняла галерэю партрэтаў беларускіх дзеячоў, пачынаючы ад Еўфрасіньні Полацкай, Рагвалода й Рагнеды, др. Францішка Скарыны, да сяньняшніх дзён.

Урачысты сход вёў старшыня ЗБК сп. Мікола Ганько. Прывітаньні прыслалі: сп. Зянон Пазьняк, старшыня Сойму Беларускага Народнага Фронту; сп. Сяргей Мартынаў, пасол Рэспублікі Беларусь у ЗША; сп. Янка Жучка, старшыня Бэльгійскага Сэктару Рады БНР й заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу; сп. Паўла Гуз, сакратар Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі; кіраўніцтва аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе; др. Вітаўт Рамук ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага. Было прачытане прывітаньне ад Прэзыдэнта Клінтана беларусам Амэрыкі. Асабіста вітала ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады старшыня яго др. Раіса Жук-Грышкевіч. Празь мікрафон паданае было наігранае на плёнцы прывітаньне ад сп. Юркі Рапэцкага, які нядаўна быў у Беларусі й расказаў пра трывожную там сытуацыю.

Ключавы даклад меў сп. Раман Кардонскі, сябра Згуртаваньня Беларусаў Правінцыі Квэбэку. У дакладзе сп. Кардонскага, як і ў прывітаньнях, гучэла вострае асуджэньне прадажнай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі, Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, які дзейнічае не на карысьць, а на шкоду Беларусі, заганяючы яе назад у маскоўскую няволю; шкодзіць нацыянальнаму адраджэньню, адраджэньню беларускай мовы й культуры.

Пасьля дакладу была прачытаная й прынятая ўдзельнікамі ўрачыстага сходу рэзалюцыя.

Беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» законьчылася афіцыйная частка сьвяткаваньня 77-х угодкаў Векапомнага Акту 25 Сакавіка. **Р. Ж.-Г.**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

Мы, канадыйцы беларускага паходжаньня, удзельнікі ўрачыстага сходу на адзначэньне 77-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 Сакавіка 1918 году, што адбыўся ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта, выказваем сваё занепакаеньне лёсам дзяржаўнасьці беларускага народу, яго эканомікі і асабліва станам беларускай мовы і беларускай культуры.

Мы цешыліся, калі ў 1990 годзе быў прыняты Закон аб дзяржаўнасьці беларускай мовы, калі ў 1991 годзе Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі з 27 ліпеня 1990 году быў наданы статус канстытуцыйнага закону, і Рэспубліка Беларусь сталася незалежнай дзяржавай. Мы цешыліся з аднаўленьня ў Беларусі яе гістарычнай сымболікі, фармаваньня беларускіх Збройных Сілаў і іншых дзяржаўных інстытутаў.

На вялікі жаль, наша радасьць была кароткая. Ужо ад некаторага часу ў Беларусі, нягледзячы на дзяржаўны статус беларускай мовы, назіраюцца перашкоды з боку ўрадавых дзейнікаў у яе адраджэньні і пашырэньні ў штодзённым ужытку афіцыйных асобаў. Яшчэ больш сумна і абуральна, што высока пастаўленыя дзяржаўныя мужы, уключна з Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь спадаром Аляксандрам Лукашэнкам на чале, не карыстаюцца роднай мовай, а паніжаюць яе і гэтым самым абражаюць беларускі народ.

Мы, канадыйцы беларускага паходжаньня, на працягу амаль поўвекавога пэрыяду захоўвалі скарб сваіх бацькоў, родную мову, жывучы сярод англамоўнага і францускамоўнага насельніцтва Канады, каб цяпер з болем назіраць зьнявагу беларускага народу ў ягонай уласнай дзяржаве. Мы верым, аднак, што верныя дочкі і сыны Беларусі, належна стануць у абарону сваёй мовы, сваёй тысячагадовай культуры і сваёй дзяржаўнасьці, і мы далучаем да іх свой голас.

Жыве Беларусь!

Таронта, Антарыё, 26 сакавіка 1995 г.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**сьвяткавальнага сходу у Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., 25 сакавіка 1995 г. на адзначэньне 77-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі**

Над Беларусяй згушчаюцца хмары дыктатуры і нацыянальнай здрады.

Рэспубліка Беларусь стаіць напярэдадні падзеі гістарычнага значэньня — выбараў новага парляманту на пяцігадовы пэрыяд. Выбары назначаныя на 14 травеня 1995 году. Ад таго, наколькі гэтыя выбары будуць свабодныя ад гвалту і махінацыяў, будзе залежаць склад новага заканадаўчага органу, а гэта значыць — далейшы ход дэмакратычных рэформаў, замацоўваньне беларускай дзяржаўнасьці, захаваньне Рэспублікай нэўтралітэту і поступ нацыянальнага адраджэньня.

Але ўсё большай пагрозай гэтаму кірунку разьвіцьця становіцца аўтарытарны Прэзыдэнт Рэспублікі Аляксандар Лукашэнка і ягоная каманда падабраных ім бюракратаў. З выразнымі дыктатарскімі замашкамі, сп. Лукашэнка ўзяўся падганяць ход справаў пад свае прамаскоўскія пагляды. Ён жыўцом цягне Рэспубліку Беларусь у расейскі ваенны лягер, аддае задарма Крамлю беларускую тэрыторыю пад ваенныя базы, прадае за бесцан маскоўскаму капіталу эканамічныя інтарэсы Рэспублікі, зьневажае беларускую мову і падрывае самую ідэю дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. У аблічы далейшага паглыбленьня эканамічнага крызісу і спаду ягонае папулярнасьці Прэзыдэнт Лукашэнка пайшоў нават на парушэньне Канстытуцыі. За плячыма парляманту ўрад падпісаў з Расеяй згубныя для Беларусі пагадненьні, а цяпер Прэзыдэнт Лукашэнка дамагаецца заўчаснага роспуску Вярхоўнага Савету, каб не дапусьціць да крытыкі гэтых пагадненьняў. Незаконна падпарадкаваўшы сабе Дом друку, тэлебачаньне, радыё і амаль усю прэсу, топчучы нядаўна прыняты Закон аб друку, сп. Лукашэнка наводзіць цэнзуру ў сродках масавай інфармацыі, самавольна пазвальняў рэдактароў нязалежных газэт, у тым ліку галоўнага рэдактара органу Вярхоўнага Савету, найбольш папулярнай «Народнай газеты», Іосіфа Сярэдзіча. Прыйшоўшы да ўлады на хрыбце папулісцкіх абяцаньняў выкараніць карупцыю, а цяпер змовіўшыся з карумпаванымі элемэнтамі, Прэзыдэнт-аўтакрат Лукашэнка сілавымі і антыканстытуцыйнымі мерамі намагаецца спаралізаваць свабодную думку ў грамадстве, каб правесьці ў новы Вярхоўны Савет сваіх стаўленьнікаў.

Да чаго могуць прывесьці ўсе гэтыя манэўры, гэтае парушэньне законаў і дэмакратычных прынцыпаў? Да таго, што Беларусь апынецца інкарпараванай назад у расейскую імпэрыю, тэрыторыя Рэспублікі застанецца і надалей плацдармам Крамля, сьцэзьне беларуская дзяржаўнасьць, спыняцца адраджэнскія працэсы, а русыфікацыя ашчэрыць ізноў сваё нахабнае аблічча. Лукашэнкава палітыка прывядзе да таго, што беларускія салдаты ізноў будуць пасылацца на франты расейскае імпэрыі, як гэта было за часамі цароў і чырвоных камісараў. Мала таго, аддаўшы Крамлю сваю тэрыторыю пад ваенныя базы, Беларусь апынецца пад пагрозай ядзернага ўдару на выпадак канфлікту Масквы з Захадам, а ў лепшым выпадку — пад ціскам эканамічных санкцыяў ці байкоту. Захад ужо ўстрывожаны тым, што Беларусь вуснамі свайго прэзыдэнта, наўсуперак сваёй Канстытуцыі і ў парушэньне міжнародных пагадненьняў, хоча адмовіцца ад нэўтралітэту і далейшага скарачэньня звычайных відаў зброі.

У сувязі з вышэй сказаным, мы заклікаем усіх суродзічаў да супрацьдзеяньня ліквідатарскім пасяганьням Прэзыдэнта Лукашэнкі на беларускую дзяржаўную незалежнасьць, дэмакратыю, нэўтралітэт, нацыянальнае і эканамічнае адраджэньне Беларусі. Мы са свайго боку будзем рабіць гэта праз пашырэньне праўды на Захадзе аб Лукашэнкавых антыдэмакратычных і антыбеларускіх намерах. Мы заклікаем усіх падтрымваць законнымі шляхамі дэмакратычныя плыні і адраджэнскія працэсы на Беларусі.

Жыве Беларусь!

Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

**Аднадушна прынята.**

## ПРЫВІТАНЬНЕ

**волялюбнаму Чэчэнскаму народу ад удзельнікаў сьвяткавальнага сходу, скліканага ў амэрыканскім горадзе Нью-Брансьвіку, штат Нью-Джэрзі 26 сакавіка 1995 году, на адзначэньне 77-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі**

Хоць Беларускі і Чэчэнскі народы геаграфічна далёкія адзін ад аднаго, яны спалучаныя адным жаданьнем жыць у свабодзе і быць гаспадарамі сваё зямлі. Яны спалучаныя таксама змаганьнем за свае правы з тым самым ворагам — маскоўскім імпэрыялізмам зь ягонай дыктатурай і гвалтаваньнем нацыянальных і людзкіх правоў.

Традыцыя беларуска-чэчэнскага супрацоўніцтва запачаткавалася яшчэ ў 1918 годзе, калі народы Паўночнага Каўказу і Беларускі народ пачалі адбудоўваць сваю дзяржаўнасьць. Плённым гэтае супрацоўніцтва было ў пэрыядзе пасьля Другое сусьветнае вайны ў Заходняй Эўропе і Злучаных Штатах Амэрыкі пры актыўным удзеле Рады БНР і ейнага Старшыні Міколы Абрамчыка, які у тым часе быў таксама старшынём Лігі Паняволеных Народаў.

У духу гэтай шматгадовай традыцыі беларуска-чэчэнскага палітычнага супрацоўніцтва і супольнае дыпляматычнае дзейнасьці мы выказваем нашу салідарнасьць са змагарамі вызвольнае вайны Чэчэнскага народу за свабоду свае краіны, катэгарычна асуджаем маскоўскіх агрэсараў, іхныя генацыдныя злачынствы ў Чэчні, і дэкляруем поўную падтрымку, каб самаахвярная абарона чэчэнцамі сьвяшчэннага права на нацыянальную свабоду і дэмакратыю завяршылася перамогай.

Няхай жыве вольная Чэчня!

Няхай жыве вольная Беларуская Народная Рэспубліка!

**Аднадушна прынята.**

*Шчыра вітаем беларускага палітычнага дзеяча, грамадзкага працаўніка і супрацоўніка газэты «Беларус» у Бэльгіі*

## сп. ЯНКУ ЖУЧКУ

*зь 70-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 15 красавіка сёлета, і жадаем яму шмат год здароўя, асабістай удачы і плённага жыцьця на карысьць адбудовы незалежнай і дэмакратычнай Беларусі.*

**Рэдкалегія «Беларуса»**
**Сябры**

Ведамага актыўнага грамадзкага працаўніка ў Паўночнай Англіі

## ЯНКУ КАЛБАСУ

віншуем зь 70-мі ўгодкамі жыцьця, што споўняцца 15 травеня сёлета, жадаем добрага здароўя і шчасьця ў далейшым жыцьці.

**Сябры і прыяцелі**
**з Брандфорду і ваколіц**

# БЕЛАРУСКАЕ ДЫПЛЯМАТЫЧНАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВАЎ БЭЛЬГІІ

Дзесь у палове мінулага году нарэшце адчынілася беларускае пасольства ў Бэльгіі. Дакладнае даты адчыненьня нельга даць, бо яно адбывалася некалькімі этапамі. Сьпярша прыехаў, як-бы ў разьведку, трэці сакратар сп. Аляксандар Хайноўскі. Ён адразу-ж наладзіў лучнасьць са мною. Мы са сп. Аляксеем Арэшкам сустрэліся зь ім і правялі некалькі прыемных гадзінаў.

Па некаторым часе прыбыў і сам пасол, сп. Уладзімір Лабуноў зь некалькімі супрацоўнікамі. Неўзабаве, пасьля акрэдытацыі пасла Каралём, было афіцыяльна абвешчана пра адчыненьне ў Бэльгіі дыпляматычнага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь.

Беларускіх дыпляматаў чакала тут шмат працы, паколькі Брусэль — палітычны і эканамічны цэнтар Эўрапейскай Супольнасьці. Трэба зазначыць, што пасол Лабуноў і ягоныя супрацоўнікі вельмі актыўныя, і вынікі іхнае дзейнасьці навідавоку.

У часе нашага спатканьня са сп. Лабуновым выявілася, што на першым пляне ягонае працы было наладжаньне двубаковага гандлёвага абмену паміж Беларусяй і Бэльгіяй. Мы запрапанавалі наладзіць спатканьне з прадстаўнікамі бэльгійскае прэсы, каб пашырыць інфармацыю і аб пасольстве, і аб Беларусі. З боку пасла было даволі доўгае ваганьне, як мы зразумелі, дзеля палітычных прычынаў, дакладней кажучы, дзеля няяснае сытуацыі ў Беларусі. І ўсё-ж пасьля прыезду ў Бэльгію міністра замежных справаў Беларусі сп. Уладзіміра Сянька для падпісаньня натаўскага Партнэрства дзеля міру, сп. Пасол даў згоду на інтэрв'ю зь вядомым ужо нам журналістам сп. Фрэдзі дэ Паў з флямандзкае газэты «Дэ Стандаард» (-інтэрв'ю ў якой было апублікаванае 17 лютага сёлета).

На нашую прапанову адбылося 18 лютага на кватэры ў сп-тва Клыбікаў спатканьне групы беларусаў Бэльгіі з працаўнікамі пасольства, жонкамі ды некалькімі малымі дзяцьмі. У сваім прывітаньні аўтар гэтых радкоў зазначыў, што мэта спатканьня — узаемнае азнаямленьне. Было выказнае задаваленьне, што нарэшце беларусы Бэльгіі ня чуюцца больш "асірочанымі», што няма больш патрэбы езьдзіць па беларускую візу за межы Бэльгіі і кожны раз натыкацца на няпрыемнасьці. Быў узьняты тост за тое, каб спатканьне сталася пачаткам сяброўства і працы над адраджэньнем Бацькаўшчыны — Беларусі. Гаспадар дому запрасіў усіх да багата падрыхтаванага пачастунку. Спатканьне прайшло ў вельмі прыемнай атмасфэры. Спадар Пасол у сваім слове сказаў, што ён рады пазнаёміцца зь беларусамі Бэльгіі, пачуць ад іх чыстую беларускую мову, захаваную пасьля 50 год адлучэньня ад Бацькаўшчыны, падзякаваў за запрасіны, выказаў спадзяваньне на супрацоўніцтва. Сп. Хайноўскі, трэці сакратар пасольства, прыгадаў свой першы прыезд у Бэльгію, пачуцьцё адзіноцтва і радасьць сустрэчы зь беларусамі-жыхарамі Бэльгіі, Янкам Жучкам і Аляксеем Арэшкам. Сп. Хайноўскі перадаў маленькія падарункі-сувэніры зь Беларусі.

Былі зробленыя намаганьні, каб наладзіць кантакты з бэльгійскімі прадпрымальнікамі. Асабіста я наладзіў пры дапамозе эканамічнага дарадніка, сп. дэ Рыкеля, спатканьне з дырэктарам Асацыяцыі Мэталічнае Вытворчасьці. Было гэта незадоўга да прыезду ў Бэльгію 6 сакавіка Прэзыдэнта Лукашэнкі. На просьбу пасла Лабунова было заплянаванае спатканьне бэльгійскіх прадпрымальнікаў зь беларускім Прэзыдэнтам і ягоным антуражам. На вялікі жаль, спатканьне не адбылося. Прычыны нам ня ведамыя. Можна толькі здагадвацца. Магчыма, пры спатканьні зь Ельцынам Лукашэнка атрымаў ад яго нейкія дырэктывы. Мой знаёмы бэльгійскі журналіст Фрэдзі дэ Паў (які быў таксама запрошаны на спатканьне з Лукашэнкам, але атрымаў факс, што спатканьня ня будзе) зазначыў: «Гэта вельмі дрэнная марка для вашае краіны».

Пасьля гэтага я даведаўся (праз Беларусь), што Прэзыдэнт Лукашэнка быў у Бэльгіі і 6 сакавіка афіцыйна адкрыў беларускае пасольства. Пра гэта падало беларускае радыё. А тут, апрача маленькае нататкі ў друку аб прыняцьці Прэзыдэнта Лукашэнкі бэльгійскім Каралём, нічога ў сродках масавай інфармацыі ня было. Чаму? Можна толькі здагадвацца. Праўда, 15 сакавіка франкамоўная газэта «Ле Суар» (вечар) зьмясьціла інтэрв'ю з Лукашэнкам.

**Янка Жучка**

## *КАНЦЭРТ «СЯБРОЎ» У БЕЛАРУСКАЙ МІСІІ ПРЫ ААН*

27 сакавіка ў Беларускай місіі пры ААН адбыўся канцэрт папулярнага беларускага ансамблю «Сябры» пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі. З трымя песьнямі выступіў таксама саліст Віктар Вуячыч. Пасьля канцэрту адбылося прыняцьце для гасьцей.

Адкрываючы вечар, галава місіі, пасол РБ пры ААН сп. Аляксандар Сычоў сказаў, што канцэрт наладжаны, як акт адзначэньня 50-годзьдзя заканчэньня Другое сусьветнае вайны і заснаваньня Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

На канцэрт-прыняцьце было запрошана 85 дыпляматаў краін СНД, Усходняе Эўропы, Лацінскае Амэрыкі й Афрыкі, а таксама колькі асобаў ад беларуска-амэрыканскай грамады.

Вечар прайшоў вельмі ўдала. «Сябры» падабралі са свайго рэпэртуару «прадстаўнічыя» нумары, паказаўшы беларускае эстраднае мастацтва зь лепшага боку.

Ня горш справіліся і прадстаўнікі (і прадстаўнічкі!) беларускага кулінарыйнага мастацтва, каронным нумарам якіх была беларуская мачанка. Дыпляматычныя кантакты плённыя пад смачную закуску.

Гэта вельмі добра, што дыпляматы ААН азнаямляюцца зь Беларусьсю ня толькі праз дэбаты на тэму Чарнобыля й членскіх узносаў Менску, а і праз эстрадныя ды гастранамічныя таленты Рэспублікі Беларусь.

**Я.З.**

## БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЯ ДЕЛЕГАЦЫЯ Ў ДЗЯРЖДЭПАРТАМАНЦЕ ЗША

20 сакавіка сёлета беларуска-амэрыканская дэлегацыя наведала Дзяржаўны Дэпартамант у Вашынгтоне, каб памінфармаваць пра падзеі на Беларусі ды паінфармавацца аб стане амэрыканска-беларускіх дачыненьняў. У складзе дэлегацыі былі Алеся Кіпель ад Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтваў; Язэп Арцюх, рэдактар англамоўнага «Беларускага Агляду»; сп-ня Галіна Русак, Алекс Сільвановіч ад Чарнобыльскага Фонду БАПЦ; Вера Запруднік, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі; Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

Паводле квартальніка *Belarusian Review* (№1, вясна 1995), дэлегацыя правяла прадуктыўныя гутаркі ў Дзяржаўным Дэпартаманце. З амэрыканскага боку ў іх узялі ўдзел, апрача ўрадаўцаў Дзяржэпартаманту, прадстаўнікі Інфармацыйнага Агенцтва ЗША, Амэрыканскага Агенцтва для Міжнароднага Разьвіцьця, Нацыянальнае Рады Бясьпекі і Гэльсінскае Камісіі.

Дэтальней пра візыт, як і пра шмат чаго іншага, можна прачытаць у згаданым нумары «Беларускага Агляду».

## Сьв. пам. ЯНКА МІХАЛЮК

Шчыры патрыёт Беларусі, шматгадовы старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, палітычны і грамадзкі дзеяч, актыўны працаўнік на рэлігійнай ніве памёр у Лёндане 31 сакавіка 1995 году.

Жонцы нябожчыка, заслужанай грамадзкай працаўніцы Лёлі Міхалюк і ейнай сям'і выказваем шчырыя спачуваньні.

Сьведамая Беларусь будзе вечна памятаць каштоўны ўклад сьв. пам. Янкі Міхалюка ў адраджэньне Роднага Краю.

*Галоўная ўправа БАЗА*
*Рэдкалегія газэты «Беларус»*

**Vera Rich**

**FOR ALENA MICHALUK**
**in memory of her beloved husband**

*Justly should we praise righteous men,*
*And at their passing all should mourn!*
*Not ink, but tears must fill the pen,*
*Knowing that such has crossed the bourne,*
*And sunlight turns to blackness then.*
*My dear, though life now seems forlorn.*
*In this grim hour, recall that when,*
*Cruelly from homeland tempest-torn,*
*He came here, how he toiled again*
*And built his people life reborn...*
*Let Belarus in history's ken*
*Up-raise his name. Now, past pain's thorn,*
*Kingdom of God be his. Amen.*

London 7.IV.1995

## СПРАВА ІОСІФА СЯРЭДЗІЧА

**«У прорву грамадзянскае вайны?»**

Галоўны рэдактар самага папулярнага ў Беларусі штодзёньніка «Народнай газэты», Іосіф Сярэдзіч, быў звольнены Прэзыдэнтам Лукашэнкам зь ягонай пасады за тое, быццам-бы, што ў «Народнай газэце», у нумары за 10 сакавіка (тыраж 558 399 экз.) быў апублікаваны адкрыты ліст да Прэзыдэнта Лукашэнкі, у якім была выказаная перасьцярога перад грамадзянскай вайной. Ліст зьмешчаны пад даўгім загалоўкам: «Я цярплю і буду цярпець колькі трэба і якія хаця нястачы, працаваць не складаючы рук, але толькі калі буду ўпэўнены ў шчасьлівай будучыні свае Радзімы — Беларусі». Аўтар ліста пакарыстаўся правам падпісацца псэўданімам — «Зьдзіслаў Вальняровіч, 29 гадоў». Месцам напісаньня ліста пададзеная Горадзенская вобласьць.

Незважаючы на заяву рэдкалегіі «Народнай газэты», што запраўднае прозьвішча аўтара ёй ведамае, Прэзыдэнт Лукашэнка назваў ліст «фальшивкой, которую сделали за доллары». Тымчасам, падаў голас і сам аўтар, дакладней — аўтарка. Ёю аказалася 28-гадовая Рэгіна Зімніцкая, ураджэнка Зэльвенскага раёну, кандыдат пэдагагічных навук, якая працуе выкладчыцай у Плешчаніцкай філіі менскай вучэльні алімпійскага рэзэрву, як падала газэта «Свабода» (24.03.95).

Што-ж такога напісала Рэгіна ў сваім лісьце, што на яе абрушыліся гнеў і злосьць аўтакрата Лукашэнкі? Падаём ніжэй апошнюю трацiну ліста (напісанага, дарэчы, па-расейску), у якім аўтарка, прыгадаўшы свайму прэзыдэнту, што ў Заходняй Беларусі жыве яшчэ памяць пра савецкі глум над людзьмі, піша:

«Дык вось, спадар Прэзыдэнт, якая ў мяне памяць, ад імя каго я Вам пішу. Мой прадзед сустракаў Чырвоную Армію хлебам-сольлю, думаючы, што савецкія гаспадары будуць лепшыя за польскіх. Горкі досьвед вылечвае ад памылковых думак, а ягоную навуку ніхто ня вытрыцуць з майго сэрца.

За паўвеку Савецкая ўлада зрабіла мяне разумнейшым і шмат чаго навучыла. І я ведаю тое, чаго, можа, ня ведаеце Вы: толькі мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, павінны быць гаспадарамі на нашай беларускай зямлі. У нас ёсьць рукі, якія не баяцца працы, ёсьць галовы, якія могуць думаць. Толькі мы самі, бяз чужога «добрага» дзядзькі здолеем зрабіць шчасьлівым жыцьцё нашых дзяцей і ўнукаў, а ня проста запэўніць ім «каўбасу ў клетцы» і нафту па «нутраных цэнах». Я ніколі ня зьмірыся, калі мая Беларусь станецца часткай любое іншае дзяржавы, страціць незалежнасьць і свабоду. Я цярплю і буду цярпець колькі трэба і якія хаця нястачы, працаваць не складаючы рук, бяз сну і адпачынку, але толькі, калі буду ўпэўнены ў шчасьлівай будучыні свае Радзімы — Беларусі, а значыць, і маіх нашчадкаў. У супрацьлежным выпадку Вы, спадар Прэзыдэнт, можаце падпісваць дагаворы, праводзіць рэфэрэндумы, парушаць Канстытуцыю, рабіць усё, што прывядзе ды зьнікненьня Беларусі (спачатку як дзяржавы, а пасьля як нацыі), мне застаецца толькі адно — змагацца. Я ёсьць, і Вам, у выпадку гэткіх дзеяньняў, давядзецца пераступіць праз горкі плач нашай інтэлігенцыі і роспачныя крыкі апазыцыі. Вам давядзецца пераступіць і праз маю кроў. Цераз кроў сотняў тысяч, мільёнаў гэткіх, як я. Як вытлумачыць Вам, спадар Прэзыдэнт, што, ідучы на прывязі ў тых, хто жыве зь імпэрскімі замашкамі, хто сьпіць і бачыць далучэньне Беларусі да Расеі, можна лёгка пхнуць усіх нас у прорву грамадзянскае вайны?

Я пэўны, што за будучыню дзяцей і ўнукаў людзі аддадуць найдаражэйшае — жыцьцё.

У мяне няма надзеі, але я малюся... (далей у арыгінале па-беларуску)

Божа міласьцівы! Уратуй і зьберажы родную маю Беларусь, а яшчэ: даруй тым, хто ня ведае, што робіць».

## ТАВАРЫШ КРЫМІНАЛ

Нядаўна выйшла з друку кніга пад загалоўкам *Camrad Criminal: The Theft of The Second Russian Revolution*, by Stephen Hendelman. Аўтар кнігі быў карэспандэнтам газэты «Таронта Стар» ад 1987 да 1992 году ў Маскве. У асноўным кніга апісвае падзеі ў Расеі, асабліва Маскве, але таксама ўспамінае іншыя рэспублікі, уключна зь Беларусяй. Ён падае дэталі, як карупцыянеры былога савецкага рэжыму і крымінальная мафія запоўнілі вакуум, створаны развалам гнілой савецкай імпэрыі. Крыніцай карупцыі была Камуністычная партыя. Паводле аўтара кнігі, вярхушка партыі яшчэ ў 1970-х гадох прадбачвала развал Савецкай імпэрыі і старалася загрэбсьці як найбольш дабра ды забяспечыць яго ў заграніцыных банках. Пэўна-ж, ня ўсе камуністы мелі аднолькавы доступ да багацьцяў дзяржавы. Бальшыня радавых камуністаў задавольваліся пэўнымі матар'яльнымі палёгкамі, але ня мелі доступу да крыніцаў багацьця.

Трагедыю карупцыі зразумеў Гарбачоў і пазьней Ельцын, якія аб'явілі вайну карупцыі, але гэтым страцілі падтрымку камуністычнай вярхушкі, якая і надалей выконвае вядучую ролю ў крымінальнай дзейнасьці вядомай ужо ўсяму сьвету расейскай мафіі.

Здавалася напачатку, што Беларусь была іншай, што крымінальнасьць, будучы неўласьцівай беларускаму народу, абміне наш край. Аднак, чытаючы сяньняшнюю прэсу, бачым, што гэтае зло не абмінула і нашу Бацькаўшчыну. Ды як-жа яно магло абмінуць? КПБ ня была незалежнай нацыянальнай партыяй, як прыкладам югаслаўская камуністычная партыя. КПБ была поўнасьцю расейскай агентурай, ды і яе нашчадкі, кебічы ды лукашэнкі, надалей сьлепа ідуць за Масквой, поўнасьцю занядбоўваючы інтарэсы беларускага народу.

Аўтар падае, што блізу 200 урадаўцаў высокага рангу былі ўмешаны ў мафію. Паводле Шыркоўскага, былога шэфа беларускага КДБ, яны нават і не хаваліся з тым, што выкарыстоўвалі свае афіцыяльныя становішчы для собскага ўзбагачэньня. Ён падае адзін прыклад продажу дзяржаўнай фабрыкі інструмэнтаў беларускашвэдзкай кампаніі за 8 мільёнаў рублёў, тады калі яе кошт яшчэ за савецкім рэжымам быў 10 мільёнаў даляраў. Зразумела, намэнклятура апынулася ў управе гэтай кампаніі.

Змаганьне з гэтай мафіяй, піша аўтар кнігі, амаль немагчымае. Калі Ельцын аб'явіў вайну карупцыі, ён атрымаў пагрозу сьмерці. Тады, калі НКВД было легальнай мафіяй і выконвала прысуды над нявіннымі людзьмі, дык і сёньня той самы мэтад. Не спадабаўся мафіі — куля ў патыліцу. Праверана спосаб змаганьня з апазыцыяй. Розьніца фактычна няма — ахвяры НКВД, як і ахвяры мафіі, прападалі бяз сьледу. Праўда, адзін сьлед знайшоўся ў Курапатах. Мафія да такіх маштабаў яшчэ не дайшла, яна яшчэ ня мае сваіх Курапатаў.

Ува ўсіх рэспубліках, уключна зь Беларусяй, вярхушкі камуністычных партыяў аб'ядналіся са спэкулянтамі чорнага рынку з мэтай асабістага ўзбагачэньня. Вось чаму пара, каб беларускі народ прачнуўся ды выкінуў намэнклятуру пры наступных выбарах і даверыў сваю будучыню сумленным сынам і дочкам Беларусі. У сяньняшняй-жа сыстэме розьніца паміж бюракратамі і гангстэрамі зьнікла.

**Б. Рагуля**

**Абвестка**

## СПАЗНАЙЦЕ СВАІХ ПРОДКАЎ, СЫНЫ БЕЛАРУСІ

Гаспадар хутара дзе-небудзь пад Пінскам, канешне, не ўяўляў, што праўнукі яго ўбачаць Божы сьвет не сярод родных пушчаў, а недзе на Далёкім Усходзе ці ўвогуле за акіянам, у Каліфорніі ці ў Агаё. Зараз настаў, нарэшце, час адшукаць тыя ніці лёсаў людскіх, якія зьвязваюць Уладзівасток з Наваградкам, Буэнас-Айрэс ці Мэльбурн з Палесьсем...

Дзякуй Богу, беларускія архівы больш не зьяўляюцца «сакрэтным фондам партыі». Паставіць іх на службу чалавеку, ператварыць у сямейны архіў кожнага жыхара і кожнага выхадца зь Беларусі — вось новая, гуманная і высакародная пэрспэктыва. Нацыянальны архіўны фонд Рэспублікі Беларусь захоўвае звыш 20 мільёнаў справаў, якія назапашваліся на працягу некалькіх стагодзьдзяў. Гэта ў прынцыпе дазваляе адшукаць даволі аддаленых продкаў бадай што кожнага з нашых суайчыньнікаў. Трэба было бачыць зьдзіўленьне аднаго зь іх, калі ён атрымаў дакумэнтальныя пацьверджаньні свайго паходжаньня са старажытнага шляхецкага роду, заснавальнік якога жыў на пачатку 16-га стагодзьдзя! Можна не сумнявацца, што наперадзе нас чакае яшчэ шмат падобных шчасьлівых знаходак. Беларусь-жа на працягу стагодзьдзяў была родным домам для людзей розных нацый і веравызнаньняў. І праваслаўныя, і каталіцкія, і ўніяцкія, і іўдзейскія мэтрычныя кнігі былога Паўночна-Заходняга краю захаваліся ў нашых архівах у досыць вялікай колькасьці. Такім чынам, існуе добрая магчымасьць прасачыць паходжаньне многіх і многіх нашчадкаў выхадцаў з нашай агульнай Бацькаўшчыны.

**Калі вы жадаеце атрымаць дакумэнтальныя зьвесткі аб сваіх далёкіх і блізкіх продках зь Беларусі, калі ласка, зьвяртайцеся ў Беларускае генэалягічнае таварыства:** вул. Калектарная, 10, пакой 208, 220048 Мінск, Рэспубліка Беларусь; тэл. (0172) 208-760, (172) 208-830, факс (0172) 205-120. БГТ — навуковая, культурна-асьветніцкая, недзяржаўная і некамэрцыйная арганізацыя, галоўная мэта якой — спрыяць дасьледваньню генэалёгіі грамадзян, ураджэнцаў Беларусі. У нас ёсьць падставы разьлічваць на посьпех гэтай гуманнай місіі, адшукаць карані і скласьці радавод літаральна кожнай асобы, чыя сямейная гісторыя зьвязана зь Беларусьсю.

**BELARUSIAN REVIEW, Vol. 7, No. 1, Spring 1995**

Веснавы выпуск «Беларускага Агляду» багаты на востра надзённы матар'ял, датычны да сучасных падзеяў на Беларусі.

Рэдактар Джоў Прайс піша пра прывітаньне беларусам Амэрыкі ад Прэзыдэнта Клінтана, а таксама пра ліст рэдактару «Агляду» ад сэнатара Джэсі Гэлмса што да нацыянальнай бясьпекі Беларусі. У нумары зьмешчаныя цікавыя вытрымкі з дакладу Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША аб стане правоў чалавека на Беларусі, падаецца інфармацыя аб формах дапамогі Беларусі з боку Амэрыканскага Агенцтва Міжнароднага Разьвіцьця. Арт Турэвіч выступіў на старонках «БА» з крытычным аналізам прэзыдэнцтва А. Лукашэнкі. Пад загалоўкам «Злучаныя Штаты і Беларусь: супольнае будаваньне лепшай будучыні» зьмешчаны тэкст прамовы амэрыканскага пасла ў Менску Кенэта Ялавіца перад студэнтамі менскага Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту.

У нумары шмат іншых цікавых інфармацыйных і дакумэнтальных матар'ялаў, у тым ліку дэтальны рэпартаж пра наведаньне беларуска-амэрыканскай дэлегацыяй Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША 20 сакавіка сёлета і гутаркі там з прадстаўнікамі шмат якіх урадавых установаў.

Адрас: BR, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505, U.S.A. Fax: (310) 373-0793.

## БАПЦ: ЗАКЛІК ДА ЯДНАНЬНЯ

Бюлетэнь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы «Царкоўныя навіны» (№1, Вялікдзень 1995) падаўшы, што Украінская Праваслаўная Царква ў Канадзе і Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Дыяспары пайшлі пад апеку Усяленскага Канстантынопальскага Патрыярха, піша:

«Нашая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква поўнасьцю адасобнена ад Праваслаўнай Царквы, ад усяленскасьці.

«Нашая Царква падзелена, нам усімі сіламі абавязкова трэба шукаць шлях да аб'яднаньня, і то не марудзіць.

«Архіяпіскап Мікалай згодны на перамовы. Ён будзе ў Гайленд-Парку 21 траўня 1995 г. і просіць Ізяслава, Першага Ярарха другой часткі БАПЦ навязаць лучнасьць на першыя перамовы пра аб'яднаньне. Архіяпіскап Мікалай кажа, што ён ня мае адрасу Ізяслава.

«Пасьля аб'яднаньня, магчыма, і нам прыдзецца ўвайсьці ў малітоўнае саслужэньне з Канстантынопальскім Патрыярхатам».

## ВЫСТАЎКА МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ТАЛЕНТАЎ

У гарадзкой бібліятэцы гор. Голь (Hull), што мяжуе з канадзкаю сталіцай Атавай, адбылася (ад 18.III. да 1.IV.95) выстаўка малюнкаў беларускіх дзетак і графікі студэнтаў менскага Мастацкага ліцэю: Насты Дунец, Іры Котавай і Алены Шычко.

Творы як дзетак, так і маладых мастачак захаплялі ўсіх наведнікаў выстаўкі і прыцягнулі ўвагу атаўскай англамоўнай і франкамоўнай прэсы, радыё і тэлебачаньня.

Выстаўка была наладжаная старанньнямі Канадзкага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

**Івонка Сурвілла**

## Сьв. пам.
## ЧАСЛАЎ НАЙДЗЮК
**28.VIII.1915 – 28.III.19095**

Заслужаны грамадзкі працаўнік, арганізатар беларускага жыцьця ў Каліфорніі, супрацоўнік газэты «Беларус».

Нарадзіўся ў Байдатах на Горадзеншчыне, памёр у Пасадэне ў Каліфорніі. Пахаваны ў Глендэйле на могільніку Форэст Лон Мэмор'ял.

Вечная памяць нябожчыку, а жонцы Юзэфе і ейнай сям'і выказваем шчырае спачуваньне.

*Галоўная ўправа БАЗА*
*Рэдакцыя «Беларуса»*

## ПАМЯЦІ ЧАСЛАВА НАЙДЗЮКА

Памёр Часлаў Найдзюк — Чэсь. Так мы яго — студэнта юрыдычнага факультэту ўнівэрсытэту імя Сьцяпана Батуры ў Вільні, сябру Беларускага Студэнцкага Саюзу (БСС) ў Вільні — называлі. Пазнаёмілася я з Чэсем, калі ўвосень 1938 году, паступіўшы таксана на юрыдычны факультэт таго-ж унівэрсытэту, першы раз прыйшла зь сястрой Валяй ў Беларускі Студэнцкі Саюз, што на Завальнай пад нумарам 1, каб злажыць заяву аб паступленьні ў гэтую паважную, высока паважаную ўсімі арганізацыю. На гэта патрэбна мне было выпаўніць апытальнік-заяву й мець двух паручыцеляў. «У Саюзе на Завальнай» ляжалі стосы паперы й газэт, бо ён суседнічаў з рэдакцыяй газэты «Крыніца», якая мусіць і дала гэты пакой студэнтам для карыстаньня. У Саюзе было тады шмат каляжанак і калегаў. І сярод іх найбольш памятаю спакойнага, ветлівага, зь цёмнай чупрынай Чэся, прыветлівыя вочы якога былі апраўленыя доўгімі цёмнымі вейкамі. Каб новая каляжанка ў Саюзе ня чулася нясвойска, ён у той вечар ёю й заапекаваўся.

Чэсь быў хадэкам. У нашым дэмакратычным Беларускім Студэнцкім Саюзе былі розныя групоўкі — правых, левых і хадэкаў (хрысьціянскіх дэмакратаў). Агульныя сходы арганізацыі бывалі бурнымі, што насьцярожвала прафэсара Кашмідэра, назначанага ўнівэрсытэтам апякуна БСС. Нашыя сходы бывалі бурнымі, калі кожная групоўка імкнулася выбраць ува ўправу як найбольш сваіх паплечнікаў. А наагул сяброўскія адносіны былі надзвычайна мілымі й дружнымі. Квітнеючая моладзь умела і працаваць, умела і цешыцца маладосьцю, дарагой Вільняй зь яе славутым Беларускім Музэем імя Івана Луцкевіча, Бэрнардынкай, Трохкрыжскай гарой, Закрэтам, Вэркамі й іншымі ваколіцамі Вільні, якія мы цёплымі сонечнымі нядзелямі вялікай грамадой беларускай адведвалі.

Дарагі Чэсь, Твой адыход ускалыхнуў нас сумам і яснымі ўспамінамі тых раньніх студэнцкіх дзён у Вільні... Нашай Вільні, дзе др. Францішак Скарына іх слаўнага граду Полацку ў 1522 годзе, надрукаваўшы «Малую падарожную Кніжку», запачаткаваў друк на беларускай зямлі. У 1522 годзе ў Вільні быў пачатак друку ў Беларусі, а не ў 1562 г. у Нясьвіжы, як цяпер нашы гісторыкі кажуць.

Дарагі Чэсь, Ты быў адным з тых, што вынес зь Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні лунаючую паходню службы Беларушчыне і верна нёс яе праз усё сваё жыцьцё па ўсіх кутках сьвету, куды Цябе толькі нялюбы лёс ні закідаў. Мы верым, што праца Тваіго жыцьця, як і іншых сяброў БСС, не пайшла намарна, а ўжо дала й яшчэ дасьць свой плён.

Сьпі спакойна, наш Сябра Дарагі, а калі станеш перад Сьвятлом Боскага Аблічча, папрасі Яго аб ласку й дапамогу нашаму Беларускаму Народу, які змагаецца з ворагамі, што з усходу й захаду ды і знутры, цягнуць Беларусь назад у няволю. Папрасі, а цяпер мы молім Яго за Тваю Душу.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

**БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА»**

У нумары (40 ст.): Пяцідзесятыя ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, Краёвай Абароны і Саюзу Беларускай Моладзі; М. Кавыль — Вогненная рака; М. Кавыль — Фабіян Іванавіч Акінчыц; Генэрал, які пісаў вершы (Ст. Булак-Балаховіч); Юрка Віцьбіч — Ой-жа і сынкі былі ў бацькі-Балаховіча; Галіна Вайтовіч — вершы; Сымон Шаўцоў — «Каму гарохі?»; Алеся Грыцкевіч — вершы; Міхась Кавыль — Саваізмы; лісты ў рэдакцыю; з прэсы; хроніка; Ірына Бурдзейка — вершы; прэскамунікаты Беларускага Пасольства ў Вашынгтоне; абвесткі.

Выдавец: Беларускае Выдавецкае Таварыства. Нью-Ёрк — Саўт-Рывэр.

**СПАЧУВАНЬНЕ**

Рэдакцыя «Беларускай Думкі» выказвае глыбокае спачуваньне пісьменьніку Сымону Шаўцову з прычыны напаткаўшага яго гора — сьмерці жонкі.

13 красавіка 1995 г.

**«ЗВАЖАЙ», нр. 2(78). Травень 1995**

У нумары (8 ст.): Надыйшла пара (пра выбары на Беларусі); Куды «вертыкальны» прэзыдэнт цягне абкрадзены беларускі народ; К. Акула — Мядзьведзь апёк лапы і глуміць далей; Эрык Марголіс — Шаленства ў лютым 1945 г.; Віншуем Пётру Нядзьвецкага. Хто ваяваў, хто гуляў; «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак»; хроніка, нэкралёгі.

Адрас: ZVAŽAJ, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., Canada M4K 1C2.

## УДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У БІТВАХ НА ЗАХОДНІХ ФРАНТАХ

У маіх папярэдніх артыкулах («Беларус», н-ры 410 і 419) я стараўся апісаць цяжкасьці, зь якімі беларусы сутыкнуліся, каб выехаць з СССР у 1942 годзе, і ўдзел беларусаў у бітве пад Монтэ-Касына ў Італіі.

Незважаючы на розныя перашкоды, прыдзіркі з боку палякаў, усё-такі тысячы беларусаў, некаторыя пад фальшывымі прозьвішчамі і са зьмененай рэлігіяй, самотныя і зь сем'ямі, пакінулі савецкі «рай» і выехалі ў 1943 годзе ў Іран (Пэрсію). Які быў далейшы лёс гэтых няшчасных людзей — ахвяраў ссылак, рэпрэсій, былых ваеннапалонных?

У 1942 годзе ўся польская армія пад камандаваньнем ген. Андэрса перабралася ў Ірак і Палестыну. Тут адбылося абшырнае перагрупаваньне. Найбольш жаўнераў, у тым ліку і беларусаў, засталося ў 2-м Польскім корпусе, які пасьля браў удзел у баях у Італіі (1944-45 гг.). Іхныя сем'і засталіся ў Іране. Аб іх напішу асобна.

Многа беларусаў разам з палякамі, аднак, перавезьлі ў Англію і ўлучылі іх у розныя польскія вайсковыя аддзелы, як авіяцыя, дэсант, флот, танкавыя злучэньні і г.д.

У польскім войску ў Англіі, яшчэ да прыезду туды беларусаў з Палестыны, былі таксама беларусы, якія пераехалі сюды з Францыі ў 1940 годзе. Бо трэба тут успомніць, што да вайны кожная трэцяя асоба ў Польшчы была ня польскай нацыянальнасьці. Простая лёгіка паказвае, што кожны трэці жаўнер у польскім войску быў ад нацыянальных меншыняў.

Беларусы, якія апынуліся ў польскім войску ў Англіі, бралі актыўны ўдзел разам з палякамі ў розных баях у паветры, на вадзе і на зямлі ў Францыі, Галяндыі і Нямеччыне. Многа з гэтых беларусаў заплацілі найвышэйшай цаной — сваім жыцьцём. Родны брат аўтара гэтага артыкулу загінуў на фронце ў Францыі ў 1944 годзе.

Аб беларусах, якія ваявалі зь немцамі на заходніх франтах, мала хто ведае і яшчэ менш пішацца. Палякі ў сваіх газэтах, успамінах абыходзяць нас маўчаньнем. Усё прыпісваюць сабе. Дзеля гэтага наш абавязак — пісаць аб удзеле беларусаў на розных франтах Эўропы. Няхай беларускія гісторыкі аб гэтым ведаюць, пішуць і напамінаюць.

Варта тут успомніць, што на сьвяткаваньне 50-х угодкаў (1994) бітвы пад Монтэ-Касына ў Італіі палякі з Варшавы запрасілі ўкраінскіх вэтэранаў з Англіі. Украінцы, натуральна, з гэтых запросін скарысталі і паслалі сваіх прадстаўнікоў. Беларусы ў Англіі падобнага зарашэньня з Варшавы не дасталі. Дык ці-ж гэта не дыскрымінацыя? Аказваецца, што ў мачыхі-Польшчы мы і засталіся пасынкамі! А на ліст ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ў Варшаву з пытаньнем, чаму на сьвяткаваньне не запрасілі беларусаў, адказу ня было...

З гэтага ўсяго можна зрабіць многа высноваў. Адна зь іх — гэта тое, што няма карысьці прысягаць на вернасьць чужой дзяржаве і ваяваць пад чужым сьцягам за варожыя нам інтарэсы. Пара таксама падумаць аб лёсе сваёй шматпакутнай бацькаўшчыны-Беларусі.

*Англія*

**М. Швэдзюк**

## ДЭПУТАТЫ-«ПРАФЭСІЯНАЛЫ»

Апытньне 28-х акрэдытаваных пры Вярхоўным Савеце Беларусі карэспантэнтаў вядучых рэспубліканскіх і замежных газэт паказала, што рэпутацыяй найлепшых дэпутатаў ВС карыстаюцца наступныя асобы: З. Пазьняк (названы 27 разоў), У. Заблоцкі (23), Г. Карпенка (23), У. Новік (20). Д. Булахаў (18), У. Грыбанаў (18), М. Грыб (17), У. Цялежнікаў (17), В. Голубеў (16), С. Навумчык (16). У. Сапронаў (16), Л. Баршчэўскі (15), С. Шушкевіч (14), К. Казлоў (12), В. Алампіеў (11), Ю. Беленькі (11), А. Трусаў (11). В. Ганчар (10), В. Какоўка (10), В. Піскароў (10), П. Садоўскі (10).

(Паводле «Народнай газэты», 25-27.III.95)

Бальшыня названых парлямэнтарыяў належаць да дэмакратычных фракцыяў у ВС: БНФ, сацыял-дэмакратычнае і іншых.

**Абвестка**
## «ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРАК»

Гэта ўнікальнае выданьне складаецца з 5-ці тамоў і зьяўляецца вынікам 20-гадовага вывучэньня беларускіх дыялектаў, якое было зроблена ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. Атлас уключае каля 2 000 лінгвагеаграфічных картаў, 200 000 слоўнікавых адзінак. Матэрыялы выданьня заснаваны на 4 000 назваў аб'ектаў, іх якасьці, якія сабраны ў 216 вёсках Беларусі. Лексічны атлас — гэта фундамэнтальная праца па мовазнаўству, якая мае важнае значэньне для беларускай мовы і славістыкі, гісторыі, этнаграфіі і этналёгіі.

Да выданьня ў 1995 годзе рыхтуецца трэці том атласу (293 карты). На картах гэтага тому паказана тэрытарыяльнае распаўсюджаньне лексікі мясцовых гаворак Беларусі, якія маюць дачыненьне да асобы чалавека, яго побыту і занятку.

Агульны кошт выданьня гэтага тому складае 10 тысяч даляраў ЗША.

Выканаўчая дырэкцыя Фонду фундамэнтальных дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь з удзелам аўтарскага калектыву па грамадзкай аснове ўзялі на сябе абавязак падрыхтаваць да выданьня атлас і зьбіраюць сродкі для гэтай мэты. Фінансаваньне ажыцьцяўляецца часткова за кошт дзяржавы (Фонду), а таксама за кошт добраахвотных узносаў асобных арганізацый і грамадзян.

У сувязі з крызісам эканомікі і фінансавымі цяжкасьцямі Фонд фундамэнтальных дасьледаваньняў Беларусі зьвяртаецца да ўсіх беларусаў і тых, хто цікавіцца беларусікай, з просьбай аказаць дабрачынную дапамогу, правіць ўдзел у выданьні трэцяга тому атласу будзе адзначаны на тытульнам лісьце атласу асобна: «Выданьне трэцяга тому атласу стала магчымым дзякуючы фінансавай дапамозе (такой арганізацыі)» або з указаньнем прозьвішча асобы ў шэрагу іншых людзей, добразычліўцаў стаўленьня да выданьня атласу.

Напарад сардэчна дзякуем.

Заказы просім дасылась у выканаўчы Фонд фундамэнтальных дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь па адрасу:

220072, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, д. 66, п. 406. Тэлефоны: (0172) 39-48-90, 39-56-52, 39-57-22:

Нашы рэквізіты:

1. Фонд фундамэнтальных дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь № 700514 (лексічны атлас) у Камэрцыйным банку «Беларусь», г. Мінска, код 795.

2. 220004, г. Мінск, вул. Заслаўская, 10. Бельзнешэканомбанк, разьліковы рахунак 268070645/001.

**Фонд фундамэнтальных дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь**

З волі Божае 13 сакавіка 1995 г., пасьля доўгай хваробы, адыйшоў на вечны супакой

## сьв. пам. УЛАДЗІМІР СЯДУРА-ГЛЫБІННЫ

прафэсар, беларускі навуковец і пісьменьнік, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць жонка і дачка. Адпяваньне і пахаваньне адбылося 16 сакавіка на могілках Сьвята-Троіцкага манастыра ў Джорданвіле, штат Нью-Ёрк.

8 сакавіка 1995 г. адыйшоў на вечны спачынак

## сьв. пам. ЛЯВОН ХВАЛЬКО

Нарадзіўся 23 сакавіка 1905 г. у фальварку Грыбоўшчына Баранавіцкага павету. У 1943 г. быў змушаны выехаць на працу ў Нямеччыну. Па заканчэньні вайны 10 гадоў жыў у Англіі, браў актыўны ўдзел у грамадзка-рэлігійным жыцьці, дапамагаў грашыма выдавецкай справе. У 1958 г. перабраўся ў Злучаныя Штаты, у Нью-Ёрк. Ад 1960 г. жыў у Стамфордзе, штат Канэтыкет. Апошнія бязмала тры гады пражыў у доме для састрэлых у Дарыене, недалёка ад Стамфорду.

Абрад пахаваньня адправіў сьвятар Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы а. Анджэло. Пахаваны на могілках Вудленд у Стамфордзе.

Вечная памяць.

### «ПОЛАЦАК» № 9(39)

У нумары (64 ст.): няведамы дасюль верш Ул. Караткевіча (на жаль, з памылкай; трэці радок трэба чытаць: «Няхай скаланецца /а не «скланяецца»/ хлус»); артыкулы на гістарычныя тэмы; архіўныя матар'ялы, што дакумэнтуюць генацыдную палітыку сталіншчыны на Беларусі; артыкулы рэпартажнага характару: пра слуцкія ўгодкі, пра адзначэньне памяці Аўгена Калубовіча; працяг раману Міхася Кавыля «Із агню ды ў полымя»; вершы Андрэя Чэмера; матар'ял да гісторыі клюбу «Спадчына» і інш; хроніка з жыцьця ў Кліўлендзе; ілюстрацыі.

Адрас: "Polacak", 3247 W. 56 St., Cleveland, OH 44102. Tel.: (216) 631-8816, U.S.A.

### АХВЯРАВАНЬНІ НА ПРАГРАМУ «БЕЛАРУСЬ»

(Дзіцячая дэнтыстычная клініка ў Менску)

*У дапаўненьне да грашовай справаздачы, зьмешчанай у «Беларусе» нр. 421. Ахвяраваньні на праграму «Беларусь» склалі:*

| | |
|---|---|
| Дабрачынны Беларускі Фонд у Лёндане, Англія | анг. ф. 500 |
| М. і В. Пашкевічы | кан. д. 100 |
| В. і Ф. Русакі | ам. д. 500 |
| К. Мерляк, царква сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку | ам. д. 500 |
| А. Сільвановіч, царква Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку, Н.-Дж. | ам. д. 1000 |

З падзякаю

**Др. Барыс Рагуля, старшыня**
**Др. Джэральд Райт, дырэктар праграмы**
**Др. Артур Гэдлам, скарбнік**

## ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІСТЫЧНАГА ТЭРОРУ

Суродзічы-беларусы!

«У нас ёсьць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму... Але нішто яшчэ ў нас не напамінае пакаленьням аб ахвярах сталіншчыны. Тое няправільна й недаравальна! Мы павінны памятаць аб іх — не героях, а бязьвінных ахвярах тырана — спрацаваных рабочых, галодных калгасьніках, першых народных інтэлігентах, мужчынах і жанчынах — якія з куляю ў патыліцы кладліся ў самымі-ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае марнае слова 'Завошта?'». — Васіль Быкаў.

Хто чытаў кнігу «Курапаты», у каго ў сям'і ёсьць ахвяры камуністычнага тэрору, у каго ў грудзёх б'ецца сьведамае беларускае сэрца, той добра зразумее нас, групу беларусаў, якія вырашылі, ня «велічным помнікам», бо на гэта нас не стае, а мэмарыяльнай дошкай ушанаваць памяць ахвяр камуністычнага тэрору й сказаць сьвету пра злачынствы над Беларускім Народам.

Мэмарыяльная дошка памяці ахвяраў камуністычнага тэрору мае быць узьнятай на вялікім валуне, што знаходзіцца побач Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у Мідляндзе ў Канадзе. Ужо зроблены патрэбныя заходы, і дазвол на гэта ў дырэкцыі прошчы атрыманы.

На вылітай з бронзы памятнай дошчы мае быць напіс па-ангельску, пабеларуску й па-францускі. Мэмарыяльная дошка, мяркуем, будзе каштаваць каля трох тысяч даляраў.

Пра гітлераўскія злачынствы, пра Аўшвіцы сьвет паінфармаваны і пра іх памятае. А хто будзе інфармаваць і памятаць пра Курапаты — сымбаль генацыду Беларускага Народу!? Хто, калі мы з вамі ня будзем?

Ахвяры (выстаўляючы чэкі на «KURAPATY») і заўвагі просім слаць на імя й адрас:

R. Zuk-Hryskievic
54 Mary Street
Barrie, Ont. Canada L4N 1T1
Tel: (705) 725-8654

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Бэры, Канада*
*Красавік 1995*

**За арганізацыйны камітэт**
**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня**

### НА МЭМАРЫЯЛЬНУЮ ДОШКУ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІСТЫЧНАГА ТЭРОРУ Ў БЕЛАРУСІ

| | |
|---|---|
| 1. Міхась Тулейка | кан. д. 26,86 |
| 2. Валя Стус | 68,05 |
| 3. Пётра Попель | 50,00 |
| 4. Каця Вініцкая | 273,00 |
| 5. Kon Worth — Кастусь Вайцяхоўскі | 40,95 |
| 6. Фаня Сак | 61,42 |
| 7. Элеанора Пітушка | 50,00 |
| 8. Валодзя Бельмач | 50,00 |
| 9. Мікола Грэбень | 55,82 |
| 10. Браніслаў Даніловіч | 69,35 |
| 11. Міхась Наўмовіч | 50,24 |
| 12. Х | 69,26 |
| 13. У | 27,71 |
| 14. Віталі Кажан | 56,13 |
| 15. Др. Барыс Рагуля | 200,00 |
| 16. Кастусь Каранеўскі | 50,00 |
| 17. Мікола Буцько | 20,00 |
| Усяго | кан.д. 1.218,79 |
| 18. Янка Запруднік | ам. д. 100,00 |

Арганізацыйны Камітэт «Курапаты» выказвае шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Я. і К. Вініцкія | |
| (на амэр. выданьне) | ам. д. 100 |
| (на менскае выд.) | 50 |
| Б. І. (2 людзей) | 100 |
| Ф. Сак | 20 |
| А. Бартуль і С. Сокалаў-Воюш | 100 |
| М. і В. Сьнежка | 100 |
| М. і Н. Рагуля | 100 |
| К.Б. Вортс | 100 |
| А. Чарнэцкая | 100 |
| В. і М. Махнач | 100 |
| Н. і А. Жызьнеўскі | 100 |
| В. і Ж. Шчэцька | 55 |
| В. і М. Богдан | 50 |
| А. Сямёнава | 50 |
| А. Хрэноўскі | 50 |
| М. Каленік | 50 |
| М. Чупракоў | 50 |
| П. і В. Зыбайла | 50 |
| М. Грэбень | 50 |
| І. Сядура | 50 |
| Л. Беленіс | 40 |
| К. Муха | 30 |
| С. і М. Сташкевіч | 30 |
| Ю. Рэпэцкі | 30 |
| С. Грамыка | 20 |
| Усяго | 1305 |

| | |
|---|---|
| М. Зуй (Аўстралія) | аўст. д. 40 |
| М. Баяроўскі | ам. д. 50 |
| Віценчык (Англія) | ам. д. 10 |

*Сабрана на сьвяткаваньні дня 25 Сакавіка ў Нью-Брансьвіку (на «Беларуса» і «Беларускі Агляд»):*

| | |
|---|---|
| У. Набагез | ам. д. 100 |
| В. і А. Русак | 50 |
| В. Станкевіч | 50 |
| В. Запруднік | 50 |
| Я. Запруднік | 50 |
| В. і Л. Кажан | 40 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| Э. Рыжы | 25 |
| А. Субота | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| А. Шукелайць | 20 |
| В. і Г. Русак | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| Л. Паплаўскі | 20 |
| З. Кіпель | 20 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| А. і Н. Сільвановіч | 20 |
| А. і Н. Непейн | 20 |
| Ананімна | 20 |
| Ю. Андрусышына | 10 |
| Я. Каханоўская | 10 |
| Бервенецкі | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| М. Абрамчык | 10 |
| а. В. Андрэюк | 10 |
| М. Данілюк | 10 |
| Ст. Тамара | 10 |
| А. Шульжыцкая | 10 |
| Усяго | 682 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | ам. д. 244 |
| В. і З. Кіпель | 100 |
| М. Ганько | 75 |
| М. Тулейка | 50 |
| А. Сямёнава | 50 |
| А. Протас | 40 |
| М. Русак | 40 |
| А. Занковіч | 30 |
| Ю. Рэпэцкі | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| Н. Орса | 30 |
| З. Балкоўская | 30 |
| Я. Місюль | 30 |
| Л. Гутырчык | 30 |
| Я. Літвіненка | 30 |
| М. Каранеўскі | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| В. Касьцюкевіч | 25 |
| Усяго | 924 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Замест вянка на магілу с.п. Лявона Хвалька | ам. д. 50 |
| Б. і А. Даніловіч | 40 |
| В. Кажан | 40 |
| А. Протас | 40 |
| Падпіска й ахвяры: | |
| Я. Сурвілла | 100 |
| Згурт. Бел. Канады | 71 |
| Г. Бахар-Гайда | 50 |
| О. Грыцук | 50 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| У. Пелеса | 50 |
| С. Янкоўскі | 50 |
| П. Кулеш | 40 |
| В. Тур | 35 |
| Better Bee Supplies | 35 |
| Т. Януш | 30 |
| Т. Кольба | 30 |
| У. Харавец | 30 |
| Э. Маркоўская | 30 |
| В. Кабшука | 30 |
| А. Ліхач | 30 |
| Л. Корчык | 30 |
| Л. Грант | 30 |
| Л. Паплаўскі | 30 |
| Я. Калюцік | 30 |
| Г. Гэльвіг | 30 |
| Я. Бабіцкі | 30 |
| В. Валаткевіч | 30 |
| А. Даніловіч | 30 |
| Г. Арцюшэнка | 30 |
| А. Махнюк. | 30 |
| Б. Русак | 30 |
| Я. Скурат | 30 |
| А. Андрыца | 10 |
| Усяго | 1211 |

### АХВЯРАВАНЬНЕ НА БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

| | |
|---|---|
| др. М. Дэмквоіч | ам. д. 50 |
| Л. Стагановіч | 25 |